

# Голас душы



Яднанне ў любові

№ 35 (218)
Субота, 2 верасня 2006 г.

Штотыднёвы хрысціянскі бюлетэнь

# ГАНАРОВАЯ МІСІЯ

***27 жніўня ад нашага касцёла з Божым благаслаўленствам ад'язжалі у Гімалаі праз Расію, Кітай і Індыю альпіністы – члены зборнай каманды ветэранаў альпінізма Рэспублікі Беларусь.***

Гэта: Леанід Сцяпанавіч Галубоўскі – кіраўнік групы, Ігар Фёдаравіч Герасімовіч, Уладзімір Віктаравіч Паўлаў, Уладзімір Бандарэнка. Ікона Маці Божай Будслаўскай, якая будзе суправаджаць іх у гэтай складанай, цяжкай экспе- дыцыі, пабывае на Гімалаях, благаслаўляючы ўвесь свет, а на будучы год разам з пілігрымамі пойдзе ў Будслаў.

На развітанне Ігар Фёдаравіч Герасімовіч сказаў: "Сегодня у нас знаменательный день. Мы, группа ветеранов Белорусского альпинизма и спортивного туризма отправляемся в очередную экспедицию по маршруту Россия-Индия-Китай. Мы планируем подъехать к Гималайскому хребту, пройти ряд сложных перевалов, перевалить через Гималаи и спуститься в южный Тибет. Там есть изумительное место в центре Вселенной – мы планируем пройти вокруг этой святой горы с паломниками, пронести святую икону Божией Матери Будславской и вернуться обратно. Ксендз-настоятель Владислав Завальнюк лично нас от всей души благословил на этот тяжелый маршрут, люди будут молиться за нас в храме и дома. Мы надеемся с Божьей помощью преодолеть это восхождение на горы и, вернувшись, рассказать вам об экспедиции. Те места, которые мы посетим – это центр Вселенной и центр цивилизации. Мы хотим немножко приобщиться спортивным образом к этим направлениям развития людей и народов, а присутствие копии иконы Божией Матери Будславской будет давать нам духовную поддержку.

Пусть будет с нами благословение нашего отца-настоятеля".

Паважаныя, людзі, бацькі, дзеці і моладзь! Мы ў сваю чаргу будзем маліцца за паспяховае вяртанне гэтай своеасаблівай экспедыцыі і нашай святой іконы Маці Божай Будслаўскай.



# ВІЗІТ ГЕНЕРАЛЬНАГА СУПЕРЫЁРА МАРЫЯНАЎ

З 11 па 23 жніўня 2006 г. у Беларусі з візітам знаходзіўся Генеральны суперыёр Закону айцоў марыянаў Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі айцец Ян Мікалай Рокаш MIC.

У першы дзень свайго побыту ў нашай краіне кіраўнік марыянаў сустрэўся з Апостальскім Нунцыем у Беларусі арцыбіскупам Марцінам Відавічам, пасля чаго накіраваўся ў пілігрымку ў Росіцу (Верхнядзвінскі раён), каб прыняць удзел у штогадовых урачыстасцях у гонар росіцкіх мучанікаў – бласлаўлёных Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры, каталіцкіх святароў, якія разам з вялікай колькасцю мясцовых жыхароў былі спалены фашыстамі ў 1943 г. Варта адзначыць, што касцёл у Росіцы быў адноўлены пры дапамозе а. Яна М. Рокаша ў той час, калі ён займаў пасаду Правінцыяла марыянскай правінцыі Божага Провіду ў Варшаве.

У Росіцы высокі госць узяў удзел у начной святой Імшы і працэсіі на месца мучаніцтва бласлаўлёных святароў, якую ўзначаліў Віцебскі біскуп Уладзіслаў Блін. 12 жніўня ў росіцкім касцёле Генеральны суперыёр канцэлебраваў святую Імшу з біскупам Антоніем Дзям'янкам, Апостальскім Адміністратарам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. На заканчэнне ўрачыстасці а. Ян М. Рокаш выказаў удзячнасць Богу за ўсё тое, што за дзесяцігоддзі самаахвярнай працы беларускім марыянам удалося здзейсніць Pro Christo et Ecclesia – для Хрыста і Касцёла – як у Беларусі, так і за мяжой. Генеральны суперыёр асабліва ўзгадаў беларускага грэка-каталіцкага біскупа Чэслава Сіповіча, 25-я гадавіна смерці якога прыпадае сёлета. Біскуп Чэслаў Сіповіч, Апостальскі візітатар для беларусаў замежжа, паходзіў з ваколіц Друі, і ў 1963-1969 гг. таксама быў Генеральным суперыёрам закону мар'янаў.



У наступныя дні а. Ян М. Рокаш наведаў сваіх сабратоў у манастве, пачаўшы з самага старэйшага мар'яніна - сеньёра - а. Люцыяна Паўліка з Задарожжа, які мае ўжо амаль 93 гады. Гэты мужны святар прайшоў сталінскія лагеры і шмат гадоў самаахвярна служыў вернікам на Глыбоччыне. Далейшы шлях Генеральнага суперыёра праходзіў праз Друю, Оршу, Барысаў і Жодзіна, дзе адбываліся сустрэчы кіраўніка закону з марыянамі і вернікамі парафій, у якіх яны нясуць душпастырскае служэнне. Айцец Ян М. Рокаш асабліва цікавіўся магчымасцямі развіцця працы беларускіх марыянаў у сферы гуманітарнай дапамогі самым малазабяспечаным.

Перад адлётам у Рым 23 жніўня Генеральны суперыёр сустрэўся ў Мінску з біскупам Антоніем Дзям'янкам і падзяліўся з ім уражаннямі ад свайго побыту ў Беларусі.

*Catholic.by*

## МАЦІ БОЖАЯ ВАЛАДАРКА АЗЁРАЎ, МАЛІСЯ ЗА НАС!

***22 жніўня 2006 г., у дзень успаміну Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы, у дыяцэзіяльным санктуарыі Віцебскай дыяцэзіі ў Браславе адбылася ўрачыстасць Маці Божай Браслаўскай Валадаркі азёраў.***

Ва ўрачыстасці бралі ўдзел святары не толькі з Віцебскай дыяцэзіі, але і з іншых дыяцэзій Беларусі, сёстры з манаскіх супольнасцяў, шматлікія пілігрымы. Па асабістым запрашэнні Віцебскага біскупа Уладзіслава Бліна вакол цудатворнага абраза Маці Божай Валадаркі азёраў у гэты дзень сабраліся ўсе святары, якія паходзяць з Браслава. Гэтая зямля, дзе асабліва адчуваецца апека Багародзіцы, дала беларускаму Касцёлу шмат пакліканняў. Нямала іх нараджаецца тут і сёння, і ў гэтым найлепш праяўляецца мацярынскі клопат Марыі пра сваіх дзяцей.

Святую Імшу на чале з Апостальскім Адміністратарам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскупам Антоніем Дзям'янкам канцэлебравалі біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін і ардынарый Адэска-Сімферопальскай дыяцэзіі біскуп Броніслаў Бярнацкі, а таксама шматлікія святары з усёй Беларусі. Гамілію, прысвечаную Маці Божай і Яе нястомнай апецы, прамовіў Божаму народу біскуп Броніслаў Бярнацкі.

*Catholic.by*

## ОЩУТИТЬ ЛЮБОВЬ БОГА

***Папа Бенедикт XVI убежден, что участие в литургии позволяет верующим ощутить любовь Бога и, тем самым, укрепить свою надежду.***

Об этом Понтифик заявил в послании к участникам 57-й Итальянской национальной литургической недели, которая проходит в эти дни в городе Варесе.

В подтверждение своих слов Святой Отец сослался на 17 параграф своей первой энциклики «Бог есть любовь»: «В церковной литургии, в молитве, в живой общине верующих мы чувствуем любовь Бога, Его присутствие, и учимся видеть Его в нашей обыденной жизни».

*Agnuz*

# АГЛОНА... ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ЛАТВІЯЙ

***Пасля святочнай Імшы ў касцёле Маці Божай Ласкавай і ўрачыстай працэсіі вакол касцёла парафіянам і гасцям Задарожжа прадставілі новую кнігу духоўных вершаў Рыгора Барадуліна «Ксты», якая вылучана на Нобелеўскую прэмію.***

Рыгора Барадуліна прадставіў вернікам ініцыятар вылучэння ксёндз-магістр Уладыслаў Завальнюк, з уступным слова «Ксты» м выступіла складальнік зборніка Ала Сакалоўская, якая і прачытала новы верш Рыгора Барадуліна, прысвечаны памяці заснавальніка Чырвонага касцёла ў Мінску Эдварда Вайніловіча. У чэрвені бягучага года астанкі гэтага вялікага грамадскага дзеяча, высокадухоўнага чалавека, які з'яўляецца і для сучаснікаў прыкладам хрысціяніна, бацькі і грамадзяніна, вярнуліся на Радзіму. З горада Быдгашч у Польшчы, дзе праходзілі астатнія гады жыцця Вайніловіча, да Мінска, дзе нарадзіўся Эдвард Вайніловіч, у дастойнае месца, ля падмуркаў храма, які ён пабудаваў, вярнулася для спачыну цела гэтага знакаміта чалавека.

Верш Рыгора Барадуліна «Радзімалюб» быў напісаны ў красавіку 2006 года, калі зборнік ужо выйшаў у свет, і таму не ўключан у яго. Прывядзем яго яшчэ раз на гэтай старонцы:

Сум
Сон-траву на чужыне скуб.
Бязлітасны кон
Нагрувашчваў хмары.
А ён, зацяты радзімалюб,
Спяшаўся ўзвесці
Госпаду храмы.
Таптали ногі
Чужыя палі.
Вялі ў забыццё
Сцяжыны чужыя.
І подыхам ветру
З роднай зямлі
Душа багавейная
даражыла.
І як не шалеў
Разгуканы гнеў,
Як дух нячысты
Свет не знявечваў, -
На балючай
радзіме
Храм ацалеў,
Каб стацца верніку
Домам вечным...



А сам Рыгор Барадулін тут жа, з алтара прачытаў свой верш, прысвечаны біскупу Уладыславу Бліну, і падараваў яму свой зборнік «Ксты».

Свята ў Задарожжы працягвалася выступленнямі хароў і ансамбляў. Віцебскі край славіцца сваімі музыкамі, чыстыя галасы і музычнае суправаджэнне ўзносіліся высока да вежаў касцёла, адкуль яшчэ некалькі хвілін таму гучаў гучны рокат званоў, які абвяшчаў вялікую ўрачыстасць у гэтым невялікім пасёлку. Адбывалася сапраўднае свята. Гаспадары Віцебшчыны частавалі гасцей супам і чаем, перад касцёлам распалілі кастры, на якіх падсмажваліся каўбаскі для прысутных. Быў час наведаць і могілкі, якія былі зусім недалёка. На іх пахаваны мясцовыя жыхары, а таксама польскія салдаты, што загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. А старажылы гэтай парафіі гасцінна правялі па касцёлу і кораценька пазнаёмілі з яго гісторыяй. Касцёле Маці Божай Ласкавай быў пабудаваны з дрэва пры каралі Польшы Зыгмунце III у 1601 годзе. Гэты першы будынак праіснаваў да 1902 года, пакуль не згарэў дашчэнту. Пасля чаго намаганнямі дабрачынцаў і ахвярадаўцаў з Літвы, Польшчы, Беларусі, саміх задарожскіх парафіян святыня пабудавана нанаова, і 26 кастрычніка 1910 была пасвечана ксяндзом Антоніем Валентыновічам. Ён быў першым святаром у адноўленым касцёле. Тут жа, на падворку касцёла, помнік пробашчу задарожскай парафіі Яну Літвіньскаму, які памёр у 1955 годзе.




Пакідалі мы гасцінны Глыбоцкі край, дзякуючы гаспадарам, развітваючыся з задарожскай святыняй.

І ўжо позна ноччу прыбыла пілігрымка з Беларусі ў невялікае мястэчка Аглона ў Латвіі, якое недалёка ад горада Даўгаўпілс.

Перад намі, на фоне цёмнага жнівенькага неба, у вышыню ўзносіліся шпілі велічнага касцёла. Будынак быў асвечан пражэктарамі, і здавалася, што сярод усяго Сусвету знаходзімся толькі мы перад белай мураванай святыняй. Толькі мы - горстка пілігрымаў і касцёл пад зорным небам...

*Ала Неверовіч*

*Працяг будзе*

# СЛОВА СВЯТАРА

***Хвала Ісусу Хрысту! Дарагія людзі!***

***Сённяшняя нядзеля апошняя ў гэтым месяцы і апошняя нядзеля лета. Наступны тыдзень мы, як заўсёды, молімся за нашых дзяцей-школьнікаў, асвячаем школьныя прылады, блаславяем дзяцей і просім, каб Дух Святы адарыў іх здольнасцямі, вытрываласцю, а бацькоў – ласкай Божай, каб дапамагалі дзецям узрастаць, падрыхтавацца разумна да дарослага жыцця.***

Молім Бога таксама за ўсіх настаўнікаў і выкладчыкаў. Важна не толькі перадаць дзецям веды, гэта намнога лягчэй, чым перадаць дух, любоў і цяпло сэрца, і менавіта ў гэтым выпадку чалавек павінен выкладвацца. Калі выкладчык мае гэтую звыш дадзеную дабрыню, любоў, пакліканне, шчаслівыя тыя дзеці. Вось аб гэтым мы і молім Бога. Мы не проста молімся за настаўнікаў, за бацькоў, але каб Госпад памнажаў іх сілы добрым, дадаваў настаўнікам ласкі здароў`я, каб яны маглі дзяліцца, траіцца для дзяцей дапамагаць бацькам у выхаванні дзяцей. Гэтыя дзеці, усе дзеці Беларусі, яны не толькі дзеці канкрэтных бацькоў, яны дзеці нашай Радзімы, яны дзеці будучыні нашага народа, яны дзеці Божыя. Не забывайце пра гэта, нашы любыя і паважаныя настаўнікі!

Мы стараемся, каб нашыя дзеці былі адукаванымі. Але вельмі часта пасля заканчэння сярэдняй школы альбо інстытута як жа многа разладу ўваходзіць у іхняе маладое, не акрэпшае жыццё. Нехапае сілы і моцы духа. Бацькі і настаўнікі так стараліся, каб дзеці вучыліся, але адчуваем, што адной адукацыі недастаткова. У чым справа, што далей моладзь неяк «размываецца» у гэтым жыцці? І чалавек вяртаецца ў сваё сумленне: «Што мы, бацькі, настаўнікі не так зрабілі, недавыхавалі дзяцей? Адукацыю ім далі, дзеці здаровыя фізічна і прыгожа апрануты, здаецца, толькі жыць. У чым справа? Духа няма! Веры не дадалі. І сёння кіраўнікі дзяржаў думаюць, як зрабіць, каб сем'і былі многадзетныя? Людзі добрыя! А хто будзе выхоўваць народжаных за даляры? Думаеце, гэтымі выдзеленымі далярамі будуць выхаваныя дзеці? Нарадзіць лягчэй. Трэба, і даўно настала пара, усім аблічам звярнуцца да хрысціянскага вучэння і выхавання, на гэта выдзяляць сродкі, каб Касцёл і Царква мелі магчымасць падыйсці да людзей, быць з імі ад нараджэння і да апошняй дарогі ў вечнасць, у храмах і школах, на месцах працы і ў шпіталях, праз тэлебачанне, радыё, прэсу, асвячаць і ачышчаць сумленне. У дадзеным выпадку мы ўсё зводзім да выгаднага – купі-прадай. Калі запытацца ў любых бацькоў – колькі каштуе твой труд па выхаванню дзіцяці, каб выхаваць добра дзіця? Усё жыццё, усе нервы, усе здольнасці, усе грошы ! Гэтага хрысціянскага выхавання ніколі не заменіць даляр, не зможа ацаніць! Гэта не якіясь там аліменты заплаціў, і няхай там жонка корміць тое дзіця. Трэба чалавека так выхоўваць, каб у яго зарадзілася сумленнасць і адказнасць. Перад намі навучальны год. Давайце ўсё зробім для добрай адукацыі і выхавання нашых дзяцей. Яны, дзеці ёсць самае дарагое для кожнай добрай і сумленнай маці, для бацькоў. Людзі добрыя, давайце зробім, каб нашы дзеці не толькі на адным крыле ляцелі, крыле навукі, але дайце ім другое – духоўнае, бо ўсе толькі адукацыйныя намаганні, без Бога, не дадуць патрэбнага плёну. Скамянее сям'я, счарствее душа, рассыплюцца ў пясок усе ружовыя мары. Няма шчаслівай сям'і, няма і шчаслівага дзяцінства, няма і шчаслівай будучыні ні чалавеку, ні народу. Перад намі вялікае заданне на наступны навучальны год – гэта Нядзельная школа, духоўна-хрысціянскае выхаванне дзяцей, моладзі. Калі я вам, паважаныя бацькі, гэтага не скажу – я буду несці адказнасць перад Богам. Але лепей будзем несці гэтую адказнасць разам з вамі. Калі мы хочам, каб дзеці былі адукаваныя і шчаслівенькія ў жыцці – дайце ім Бога! Бо, дзе няма Бога, там не знойдзеш шчасця. Пакажы, дзе без Бога ёсць шчасце? Ні на небе, ні на зямлі, ні пад зямлёю ў пекле.

Калі мы ўжо адчуваем сябе сапраўды інтэлігентнымі, культурнымі, адукаванымі і свабоднымі ад боязі і фалшывага сораму ў дачыненні да веры і рэгулярнага наведвання святыняў? Нам нельга насіць тую старую фарысейскую закваску, пра якую кажа Ісус Хрыстос Апосталам. Мы стаем адказнымі перад сям'ёй, мы стаем адказнымі перад працай, мы стаем адказнымі перад Бацькаўшчынай, перад народам, перад зямлёю бацькоў. Ідзі з Госпадам Богам праз жыццё, ты і твае дзеці, і будзеш жыць шчасліва. Будзь светлым і адукаваным чалавекам, будзь сумленным, а гэта ў поўні атрымаеш дзякуючы жывой веры. Жывучы без Бога, мы не здаем экзамен з-за нашай віны, і далей у жыцці не здадуць экзамен нашы дзеці.

З Божым блаславенствам мы па-сапраўднаму будуем новы мір: свабода, вера, духоўнасць. Толькі вера дасць табе духоўны прастор і палёт.

Яшчэ раз мой вельмі пакорны зварот да вас: Бацькі! Сёстры і браты! Прыкладвайце намаганні не толькі на адукацыю дзяцей – гэта цудоўна, але недастаткова.- не занядбайце іх духоўнае выхаванне.Бацькі! Зрабіце дзяцей шчаслівымі душою і сэрцам – дайце ім Бога, і ласка Божая будзе напаўняць вашы сем'і, і вы будзеце мець радасць да канца жыцця і ў вечнасці.

Амэн

*Ксёндз Уладыслаў Завальнюк*

# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

## 3 ВЕРАСНЯ, 22 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

## ЧЫТАННЕ КНІГІ ДРУГАЗАКОННЯ

*(Друг 4,1-2.6-8)*

Майсей прамовіў да народа, кажучы:

«Цяпер, Ізраіль, слухай пастановы і законы, якія я вучу вас выконваць, каб жылі вы, і ўвайшлі, і атрымалі ў спадчыну зямлю, якую дае вам Госпад, Бог айцоў вашых. Нічога не дадавайце да таго, што я наказваю вам, і нічога не адымайце ад гэтага. Захоўвайце запаведзі Госпада Бога вашага, якія я наказваю вам.

Захоўвайце і выконвайце іх, бо гэта – мудрасць вашая і розум ваш перад вачыма народаў, якія, калі пачуюць усе пастановы гэтыя, так скажуць: Толькі гэты народ мудры і разумны, ён вялікі народ. Ці ж ёсць іншы народ вялікі, каб ягоныя багі былі так блізка, як блізка ёсць Госпад, Бог наш, калі б мы ні паклікалі Яго? Ці ж ёсць іншы вялікі народ, які б меў такія справядлівыя пастановы і законы, як увесь Закон гэты, што я сёння даю вам?»

***Лектар:*** Гэта слова Божае.

***Усе:*** Дзякуем Госпаду Богу.

## ПСАЛЬМ

*(Пс.15 (14), 2-3а. 3вс-4ав.5 Р.:1а)*

***Рэфрэн: Госпадзе, хто можа жыць у Тваім шатры?***

Той, хто паступае беззаганна*
І здзяйсняе справядлівасць,
І гаворыць праўду ў сваім сэрцы.
Хто языком сваім не абмаўляе.

**Рэфрэн**

Хто не чыніць зла бліжняму свайму,*
Не ўзводзіць паклёп на свайго суседа,
Хто з пагардаю глядзіць на злога, *
Але хваліць тых, хто баіцца Госпада.

**Рэфрэн**

Хто срэбра сваё не дае на ліхвярства*
І не прымае подкупу супраць нявіннага.
Хто так чыніць,*
Ніколі не пахіснецца.

**Рэфрэн**

## ЧЫТАННЕ ПАСЛАННЯ СВЯТОГА АПОСТАЛА ЯКУБА

*(Як 1, 17-18. 21в-22. 27)*

Браты мае ўмілаваныя: Усялякае дараванне добрае і ўсялякі дасканалы дар паходзіць звыш ад Айца святла, у Якога няма зменлівасці або ценю змены.

Пастанавіўшы, нарадзіў нас Айцец словам праўды, каб мы былі пэўным пачаткам Ягоных стварэнняў.

Прыміце з пакораю пасеянае ў вас слова, якое можа збавіць вашыя душы. Будзьце ж выканаўцамі слова, а не толькі слухачамі, якія падманваюць саміх сябе. Чыстая і беззаганная пабожнасць перад Богам і Айцом – гэта тое, каб наведваць сірот і ўдоваў у нядолі іхняй і захоўваць сябе незаплямленым светам.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Госпаду Богу.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

Пастанавіўшы, нарадзіў нас Айцец словам праўды,
каб мы былі пэўным пачаткам яго стварэнняў.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

## ✠ ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ ПАВОДЛЕ МАРКА

*(Мк 7,1-8. 14-15. 21-23)*

У той час:

Сышліся разам да Ісуса фарысеі і некаторыя з кніжнікаў, якія прыйшлі з Ерусаліма. І ўбачылі, што некаторыя вучні Ягоныя елі хлеб нячыстымі, гэта значыць, неабмытымі рукамі. Фарысеі ж і ўсе юдэі, трымаючыся традыцыі старэйшых, не ядуць, пакуль старанна не памыюць рук. І вярнуўшыся з рынку, не ядуць, пакуль не абмыюцца. Ёсць і яшчэ шмат таго, чаго прынята трымацца: абмыццё кубкаў, і збаноў, і місаў, і лавак.

Тады пытаюцца ў Яго фарысеі і кніжнікі: «Чаму вучні Твае не трымаюцца традыцыі старэйшых, але ядуць хлеб нячыстымі рукамі?»

Ён адказаў ім: «Добра прарочыў Ісая наконт вас, крывадушных, як напісана: Народ гэты шануе Мяне вуснамі, а сэрцы іх далёка ад Мяне. Але марна пакланяюцца Мне, навучаючы вучэнню чалавечых запаведзяў. Бо вы пакінулі запаведзь Божую, а трымаецеся чалавечай традыцыі».

Потым зноў паклікаў народ і сказаў яму: «Слухайце Мяне ўсе і разумейце. Няма нічога, што магло б, уваходзячы звонку ў чалавека, зрабіць яго нячыстым, але тое робіць чалавека нячыстым, што выходзіць з яго.

Бо знутры, з чалавечага сэрца, выходзяць благія думкі, распуста, крадзеж, забойствы, зайздрасць, чужалоства, сквапнасць, зласлівасць, падступнасць, бессаромнасць, блюзнерства, пыха, глупства. Усё гэтае зло знутры выходзіць і робіць чалавека нячыстым».

***Лектар:*** Гэта слова Госпада.
***Усе:*** Хвала Табе, Хрысце.

# О ВЕРЕ, НАУКЕ И ПЛАНЕТАХ

***Главный астроном Ватикана рассказал о вере, науке и планетах. Новый директор Обсерватории Ватикана считает, что всегда важно помнить о разнице между научным познанием явлений природы и религиозным верованием.***

В то же время, наука может «привести людей к познанию Бога», убежден аргентинский священник Хосе Фунес. 24 августа о. Фунес, находящийся сейчас в Кастель Гандольфо, дал телефонное интервью агентству CNS. 19 августа Папа Бенедикт XVI назначил 43-летнего священника новым директором Обсерватории Ватикана.

По словам о. Фунеса, ему будет очень трудно соответствовать уровню научной работы своего предшественника – американского иезуита о. Джорджа Койна. 73-летний о. Койн ушел на покой после 26 лет руководства научным центром Ватикана.

О. Фунес отрицает слухи о том, что о. Койн якобы лишился должности за свои публичные выступления в поддержку теории эволюции и с критикой креационизма. О. Койн останется президентом Фонда Ватиканской Обсерватории, который собирает пожертвования на работу телескопа и научного центра Ватикана в американской Аризоне.

Отвечая на вопрос о своем собственном отношении к теории Дарвина, о. Фунес пояснил, что он – астроном и специалист по галактикам, а не биолог, и поэтому предпочитает не делать никаких заявлений по поводу эволюции или теории «разумного проекта» вселенной. Главная задача Обсерватории Ватикана – быть хорошим астрономическим центром, и тем самым поддерживать диалог религии и науки, считает аргентинский клирик. «Я за хорошую науку и за хорошее богословие, и не более», — заявил Фунес, и пояснил, что при этом не нужно считать, что вера и наука не влияют друг на друга. «Иногда наука может привести нас к вере в Бога. Путем разума, познания природы и вселенной мы можем прийти к познанию Бога, — говорит главный ватиканский астроном. – Я не вижу противоречий между наукой и религией. Я вижу только некоторые трения, но это вполне здоровая вещь. Иногда трения делают нас более зрелыми».

Научный интерес о. Фунеса – галактики, соседние с нашей, то есть находящиеся «всего» в 50 млн. световых лет от Земли. Современные астрономы предполагают, что во вселенной более 100 миллиардов галактик, а некоторые выдвигают теорию, что есть несколько вселенных.

Последние открытия относительно вселенной «увеличивают вероятность» того, что на других планетах есть жизнь, считает о. Фунес. «В одной только нашей галактике – Млечном Пути – 100 миллиардов звезд. Вполне возможно, что у некоторых звезд есть планеты, очень похожие на Землю, и что на таких планетах могла возникнуть и эволюционировать жизнь», — считает он. С точки зрения веры о. Фунес также не видит ничего страшного в том, что на какой-то из планет может быть открыта разумная форма жизни. «Мне не кажется, что это создало бы какие-то проблемы для богословия или для нашей веры, потому что эти создания, существа, инопланетяне, если угодно, тоже были бы творениями Бога. Это бы превосходно вписалось в схему творения», — считает ученый.



Следующим летом Ватиканская Обсерватория планирует спонсировать специальный научный семинар по поиску «экстрасолярных» планет – планет, похожих на Землю, но находящихся в других солнечных системах.

*Agnuz*

## ОПРАВДЫВАТЬ КАЗНЬ НЕДОПУСТИМО

Католический архиепископ Люблина Юзеф Жичиньский выступил с критикой восстановления института смертной казни, который, якобы, «не противоречит католическому вероучению».

По словам архиепископа, многие политики, которые хотят произвести впечатление, делают вид, что их воззрения основаны на католическом учении. На самом деле за призывами вернуть смертную казнь стоит не вера, а «предположение о том, что всякий, не соответствующий нашим требованиям, должен быть исключен из человеческого общества».



Поводом для комментариев архиепископа Жичиньского послужили заявления популистской партии «Лига польских семей», которая пытается завоевать поддержку верующих, утверждая, что ее программа основана на принципах католицизма.

*Agnuz*

# «ГДЕ АРХАНГЕЛ ПРОВЕРЯЕТ ЭЛЕКТРОННУЮ ПОЧТУ»

***Ватикан в сети. Веб-сайт называется "Габриэль", "Файрволл" (система защиты) зовётся "Михаэль", локальная сеть – "Рафаэль": Ватикан в интернете – это отдельный мир. Хранительница папской электронной корреспонденции – монахиня из Нью-Йорка.***

Сестру Джудит Цёбеляйн часто спрашивают: «Есть ли небесный покровитель из святых у интернета?». 55-летняя веб-эксперт Ватикана отвечает всем любопытствующим: «Ещё пока нет, но мы ждём предложений». Однако, эта монахиня, уроженка Нью-Йорка, которая ведёт папский сайт, замечательно справляется; сайт Святого Престола является одним из самых посещаемых в мире, до 10 миллионов посещений в день.

«Интерес к Иоанну Павлу II в сетевом сообществе огромен», – говорит изящная женщина в тёмном орденском облачении. В интервью ДПА она сказала: «Прежде всего, люди хотят знать детали из частной жизни Папы». К 25-летию понтификата первосвященник получил 180.000 электронных писем. Группа интернет-офиса принимала послания на шести языках в специальные, свободно подключенные боксы. Сервер, как мог, справлялся с огромным наплывом. «Мы просто были в осаде»,– вспоминает сестра Джудит. Кроме того, адрес Папы доступен ещё в его день рождения на домашней странице сайта Ватикана. Впервые Апостольский Престол вышел в сеть на Рождество 1995 года. «Папа большой сторонник новых средств массовой информации, так как они открывают новые пути для евангелизации»,– говорит сестра Джудит. Мы узнали из первых рук, что Иоанн Павел II впервые связался с миром посредством Интернета, когда в 2001 году кликом мыши отправил письмо в Австралию.



### Сервера стоят в Апостольском Дворце

Сменив несколько мест работы по всему миру, в 1991 году сестра Джудит подала заявление в Ватикан. Как раз, когда там искали опытного специалиста для создания Интернет-структуры. Интерес к новым средствам массовой информации она питала ещё с детских лет, а её отец работал программистом.

«Тогда здесь едва имелись компьютеры», - вспоминает она. Нескольким кардиналам она лично оказала помощь в освоении персонального компьютера. Сегодня все офисы Ватикана соединены с сервером, существует около 1000 адресов электронной почты. Особой гордостью являются 30 больших мощных компьютеров, заполняющих серверное помещение. Серверное помещение занимает небольшую часть этажного пространства недалеко от покоев Папы. Для реализации многочисленных проектов Ватикана техники одной калифорнийской фирмы как раз оборудуют второе серверное помещение. Координатор Луиджи Салимбени рассказывает: «Мы увеличим мощность компьютера более чем вдвое». В начале 2005 года начнутся тестовые испытания виртуального портала для католических общин. Верующие всего мира смогут оперативно получать новости и общаться друг с другом в чате.




### Имя веб-сайта – «Габриэль»

Сестра Джудит, кажется, успешно перенесла сверхъестественные понятия на такое банальное медиа-средство, как Интернет. С самого начала работы её кредо звучало так: «Техника должна отражать святость». Таким образом, сайт называется «Габриэль» в честь ангела провозглашения, «Файрволл» для защиты от компьютерных вирусов назвали «Михаэлем» как ангела-стража, и локальная сеть только для внутреннего пользования называется «Рафаэлем», который всегда работает в тайне.

*Перевод Умитакай Аминова.*
*Источник «Spiegel online»*

# ЛИТУРГИЧЕСКИЕ ЦВЕТА

***Использование богослужебных облачений различных цветов в зависимости от текущего сезона или праздника, известное в наши дни, имеет позднее происхождение и возникло, как представляется, не раньше IX столетия.***

Сначала облачения были одного цвета – белые. В знак траура иногда надевали черное. Автор X или XI в. говорит лишь о белых облачениях, за исключением упоминания о пурпурных полосах на диаконской далматике и о том, что черные облачения использовались при процессии на праздник Очищения Девы Марии (1).

К XII столетию в Риме имелся канон, регулировавший цвет используемых облачений. Папа Иннокентий III, правивший с 1198 по 1216 гг., первым упоминает четыре цвета: белый, которым Римская Церковь пользуется в праздники исповедников и дев и прочие радостные дни; красный – в дни мучеников, Святого Креста и на Пятидесятницу. Некоторые, как кажется, носили красный также и на день Всех Святых, но в этом нет ничего странного, поскольку этот праздник происходит от годовщины освящения (в 609 г.) церкви Мадонны Царицы Всех Мучеников в римском Пантеоне. Однако, Римская курия в этот день облачалась в белое. Далее, черный использовался в сезоны покаяния и для заупокойных месс, зеленый же – в обычные дни, поскольку он «находится посередине между черным и белым». Папа Иннокентий считает фиолетовый цвет разновидностью черного и говорит, что он используется на праздник Святых Невинных (2) и в воскресенье Laetare (3). Алый и шафраново-желтый (coccineus et croceus) считались разновидностями красного и зеленого. Облачения розового цвета, говорит нам Папа Иннокентий, надевали иногда на праздники мучеников, а желтого – на праздники исповедников.



Вплоть до появления в XIX столетии химических красителей, получить настоящий черный цвет было очень сложно. На деле черный оказывался темнейшим оттенком синего, зеленого или коричневого. В католической церкви в Кройдоне имеется (или имелся несколько лет назад) набор «черных» бархатных облачений, датируемый первыми годами XIX столетия, когда исполь- зовались еще растительные красители. Они кажутся черными, когда священник стоит у алтаря, но если положить их на стол в ризнице, где свет падает на них под другим углом, становится очевидно, что их цвет – очень темный синий. Когда я был мальчиком, в нашем приходе было много старых министрантских сутан, некогда окрашенных растительными экстрактами, а теперь сильно полинявших и пошедших коричневыми или зелеными пятнами.



В средневековых обрядах количество используемых цветов было больше, и поскольку они определялись обычаем, а не рубриками, существовало значительное разнообразие в том, какой цвет следует носить в тот или иной праздник или сезон. В приходах могли более или менее следовать схеме кафедрального собора или какой-нибудь другой крупной церкви, но в небольших церквях многое зависело от количества имевшихся в их собственности наборов облачений.

Сакраментарий одной крупной средневековой церкви предлагает использовать в будние дни «любые старые облачения, какие выдаст ризничий», а в другом месте для великих праздников предписывались «лучшие облачения», вне зависимости от их цвета. Епископ Солсбери имел облачения, расшитые листочками золота, которые при движении звенели. Должно быть, облачения эти были весьма тяжелы...

*Примечания:*

{1} In Purificatione Beatae Mariae Virginis - традиционное латинское название Сретения Господня, празднуемого 2 февраля.

{2} Святых Младенцев Вифлеемских, 28 декабря.

{3} Четвертое воскресенье Великого Поста, названное так по первому слову интроита мессы - "Laetare Jerusalem", т. е. "Радуйся, Иерусалим".

*На фото*: вверху – традиционный римский орнат; слева – современный марийный орнат.

*Артур Крамли, перевод «UnaFides»*

*Продолжение следует*

# РУХІ АДАРАЦЫІ НАЙСВЯЦЕЙШАГА САКРАМАНТУ

**«Не шкадуйце часу на адарацыю»** ***Слуга Божы Ян Павел II***

Лацінскае слова «adoratio» азначае «ўшанаванне і праслаўленне». Ва ўсіх рэлігіях адарацыя адносіцца да істотных элементаў рэлігійнага культу. Для хрысціянаў адзіным аб'ектам адарацыі з'яўляюцца Божыя Асобы – Айцец, Сын і Дух Святы. У хрысціянскай традыцыі асаблівае месца займае адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту – ушанаванне Боскасці і праслаўленне Хрыста, прысутнага пад Эўхарыстычнымі постацямі. Адарацыйнае прабыванне перад эўхарыстычным Хрыстом паглыбляе сяброўства чалавека з Богам, дазваляе адкрыць перад Ім сэрца і маліцца ва ўласных патрэбах і патрэбах іншых людзей. Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту паглыбляе веру, надзею і любоў, а больш за ўсё падрыхтоўвае да поўнага з'яднання з Хрыстом у святой Камуніі. Такая адарацыя з'яўляецца таксама сведчаннем веры ў рэальную прысутнасць Хрыста ў Эўхарыстыі.

У старажытным Касцёле адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту праяўлялася ў годным і поўным удзеле ў Эўхарыстыі. Вялікай пашанай атачалася святая Камунія, якую неслі хворым людзям. Акрамя таго, вернікі былі абавязаныя ўшаноўваць Эўхарыстыю перад яе прыняццем, захоўваючы эўхарыстычны пост і належную ўнутраную паставу. У Сярэднявеччы пачалі выстаўляць Найсвяцейшы Сакрамант для адарацыі, а таксама з'явіўся звычай кленчыць перад Найсвяцейшым Сакрамантам, акаджваць яго і запальваць перад ім вечную лямпу. У пазнейшыя часы, у перыяд барока будаваліся раскошныя алтары, у цэнтры якіх знаходзіўся табэрнакулюм як месца пабывання Уцелаўлёнага Слова Божага, Езуса – Валадара валадароў, а таксама спецыяльныя троны для выстаўлення Найсвяцейшага Сакраманту.

На працягу стагоддзяў адарацыя выстаўленага Найсвяцейшага Сакраманту набывала розныя формы. Вядомы саракагадзінныя набажэнствы, святыя гадзіны і вечныя адарацыі. У сувязі з развіццём гэтых набажэнстваў у Касцёле з'явіліся розныя рухі, брацтвы, якія прычыняліся да таго, каб сярод веруючых паглыблялася ўсведамленне таго, што ў Найсвяцейшым Сакраманце алтара пастаянна прысутнічае Уваскрослы Хрыстос – сапраўдны Бог і сапраўдны Чалавек.



Саракагадзіннае набажэнства, вельмі распаўсюджанае ў свой час у Віленскай архідыяцэзіі – гэта значыць, на нашых землях, – заключалася ў пастаянным чуванні парафіяльнай супольнасці перад Ісусам, утоеным у Найсвяцейшым Сакраманце і выстаўленым для адарацыі на працягу ўсяго дня, тры дні падрад, часта з нагоды парафіяльнага адпусту. Адарацыя трывала беспярапынна паміж набажэнствамі на працягу ўсяго дня, так што ў суме гэтае чуванне доўжылася 40 гадзінаў. Пабожныя дзяўчаты і дзяўчынкі ў белых сукенках і белых вэлюмах на галовах кленчылі перад Хрыстом, змяняючы адна адну кожную гадзіну. Такія набажэнствы ў парафіях вельмі садзейнічалі ажыўленню веры, заахвочвалі да поўнага ўдзелу ў Эўха- рыстыі. Прапаведнікі шмат увагі прысвячалі тлумачэнню таямніцы Эўхарыстыі і заклікалі да частага прыняцця святой Камуніі.

У нас заўсёды вялікай пашанай атачалася таямніца Эўхарыстыі, калі святар нёс Цела Госпада хворым. Перад святаром, які нёс Найсвяцейшы Сакрамант, ішлі міністранты з запаленымі свечкамі. Родныя і суседзі з запаленымі свечкамі, укленчыўшы, сустракалі Хрыста пры ўваходзе ў дом хворага. Святара, які прынасіў Віятык, віталі эўхарыстычным спевам. Малітоўнае чуванне побач з пакоем хворага трывала падчас яго споведзі, а потым усе ўдзельнічалі ў абрадзе святой Камуніі.

***Вечная адарацыя – гэта беспярапыннае праслаўленне Госпада Езуса ў сакраманце Эўхарыстыі вернікамі, рэлігійнымі або парафіяльнымі супольнасцямі.*** Гэтая форма адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту ўзнікла ў Італіі, у міланскай катэдры на пачатку XVI стагоддзя і паступова распаўсюдзілася па ўсіх касцёлах Мілана. У Рым яна трапіла ў 1548 г. дзякуючы святому Філіпу Нэры, а Папа Клеменс VIII увёў вечную адарацыю ва ўсіх рымскіх касцёлах. Потым таксама ў іншых дыяцэзіях і ў іншых краінах Еўропы была наладжана адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту так, каб яна трывала на працягу ўсяго года, гэта значыць, пастаянна. У нашым краі вечная адарацыя з'явілася ў канцы XVIII стагоддзя. Яна была арганізавана ва ўсёй дыяцэзіі і ахоплівала ўсе касцёлы і парафіяльныя капліцы. Апрача таго, існуюць таксама касцёлы, у якіх вызначаны спецыяльныя капліцы, дзе

# З КЛОПАТАМ ПРА СУМЛЕННЕ

можна бесперапынна адараваць выстаўлены Найсвяцейшы Сакрамант.

Сёння вядома Кола адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту – рух, які ўзнік пры супольнасці Сясцёр Вечнай Адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту ў межах так званай Шанштацкай справы, заснавальнікам якой стаў Слуга Божы айцец Ёзаф Кэнтэніх (1885-1968 гг.). У яго могуць уваходзіць усе: святары, законнцы і свецкія асобы; дарослыя, моладзь і дзеці; мужчыны і жанчыны. Кожны з членаў Кола адарацыі можа сам вырашаць, ці будзе ён прыходзіць на адарацыю кожны дзень, ці раз на тыдзень, ці раз або некалькі разоў на месяц – у залежнасці ад магчымасцяў. Таксама і час прабывання на адарацыі кожны можа вызначыць сабе сам, напрыклад, пятнаццаць хвілін, паўгадзіны або гадзіну. Члены Кола адарацыі моляцца ў інтэнцып Святога Айца, Касцёла і свету, у інтэнцыі развіцця Шанштацкай справы, у інтэнцыі ўсіх членаў Кола адарацыі, а таксама ў асаблівых інтэнцыях, атрыманых ад сясцёр.

У гэтым годзе, які асаблівым чынам прысвечаны памяці Слугі Божага Яна Паўла II, будзем паслухмяныя яго словам, якія ён скіроўвае да нас у сваім апошнім Апостальскім лісце на Год Эўхарыстыі, заахвочваючы да пастаяннай адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту: «Няхай манаскія і парафіяльныя супольнасці возьмуць на сябе асаблівы абавязак эўхарыстычнай адарацыі па-за святой Імшой. Будзем жа доўга заставацца на каленях перад Ісусам Хрыстом, прысутным у Эўхарыстыі, кампенсуючы нашай верай і любоўю занядбанні, забыццё і нават знявагі, якія спазнае наш Збаўца ў так многіх месцах на свеце».

# ВІНШУЕМ МАЛАДЫХ

**Аддаём пад апеку Бога маладых, давяраючы, што стрымаюць у сваім жыцці сужэнскую прысягу. Просім нашых парафіянаў аб малітве за іх:**



1. Нерсісяна Вігена і Аляхновіч Вераніку
2. Гурыновіча Анатоля і Гурыновіч (Чайкоўскую) Жанну
3. Вергеенка Ігара і Крыкала Вольгу
4. Чухлея Віктара і Арцюх Вольгу
5. Дунайка Сяргея і Казюк Юлію
6. Штуро Андрэя і Ясько Наталлю
7. Старыковіча Уладзіміра і Новікаву Юлію
8. Алдухова Яўгена і Дзіцэвіч Юлію
9. Піскуна Яўгена і Юргель Ірыну
10. Яфімчык Аляксея і Скрабоўскую Марыну
11. Сычова Дзмітрыя і Сінітак Вольгу

*Любоў церпіць доўга, любоў міласэрная, любоў не зайздросціць, не праслаўляе сябе, не ганарыцца, не шукае свайго, не цешыцца з няпраўды. Любоў ніколі не знікае...*

# СВЯТЫ ХРОСТ

**З радасцю паведамляем, што за апошні час Сакрамант Хросту атрымалі наступныя дзеці і дарослыя:**



1. Мікіта Цыбулька, сын Дзмітрыя і Наталлі
2. Канстанцін-Эдуард Федчанка, сын Глеба і Вікторыі
3. Дар'я-Маргарыта Шумская, дачка Віталія і Вольгі
4. Эдуард Салаўёў, сын Сяргея і Марыны
5. Дар'я Бурэйка, дачка Яўгена і Алены
6. Элізабэт Латушкіна, дачка Аляксея і Таццяны
7. Ягор Цітко, сын Сяргея і Наталлі
8. Раман Пілецкі, сын Рыгора і Ганны
9. Станіслаў Пілецкі, сын Андрэя і Наталлі
10. Яна Казырыновіч, дачка Віталія і Юлія
11. Уладзіслаў Супрановіч, сын Андрэя і Аксаны

## СВЯТАЯ ІМША БУДЗЕ АДСЛУЖАНА

_______ . _______ 2006г. у _______ . _______ гадзін

*у інтэнцыі* _______________________________________________

| 4 верасня Панядзелак | 5 верасня Аўторак | 6 верасня Серада | 7 верасня Чацвер | 8 верасня Пятніца | 9 верасня Субота | 10 верасня Нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9.00 - ✞ | 9.00 - * | 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 8.00 - * | 8.00 - ✞ | 8.00 - * |
| 12.00 - ✞ | 12.00 - ✞ | 12.00 - ✞ | 12.00 - * | 10.00 - * | 10.00 - ✞ | 9.00 - * |
| 17.00 - * | 17.00 - ✞ | 17.00 - * | 17.00 - ✞ | 12.00 - * | 12.00 - ✞ | 11.00 - * |
| 19.00 - ✞ | 19.00 - * | 19.00 - * | 19.00 - * | 17.00 - * | 17.00 - ✞ | 13.00 - S |
| | | | | 19.00 - * | 19.00 - * | 17.00 - * 👪 |
| | | | | | | 19.00 - * |

✞ – Св. Імша ў інтэнцыі памерлых
* – Св. Імша ў інтэнцыі аб здароўі, Божым блаславенстве, апецы Маці Божай
S – Summa – Св. Імша ў інтэнцыі ўсёй парафіі
M – Св. Імша з удзелам парафіяльнай моладзі
PL – Св. Імша на польскай мове
👪 – Св. Імша для дзяцей
**скл.** – складковая Святая Імша
IT – Св. Імша на італьянскай мове
♥ – Св. Імша для маладых сем`яў

Штодзённа ў касцёле а 15-й гадзіне чытаецца **Каронка да Божай Міласэрнасці**
У капліцы Маці Божай Будслаўскай – **Вячыстая Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту**

**8 верасня** – Свята Нараджэння Найсвяцеёшай Панны Марыі
**9 верасня** – Успамін св. Пятра Клявэра, святара

**10 ВЕРАСНЯ - 23 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

## ВІНШУЕМ

**Віншуем Юрыя Сакалоўскага з Днём нараджэння. Гэта шчыры, адказны, працавіты, вельмі добры чалавек. Няхай цябе па жыцці вядзе і ахоўвае Маці Божая, ласка Ісуса Хрыста атуляе і дапамагае ў штодзённых справах, дапамагае ўзрастаць у веры, радавацца жыццю, дарыць людзям запал энергіі і ўсмешку, жадаюць яму родныя і блізкія. Здароўе маральнае, фізічнае, моц духа, спакой і раўнавагу паміж думкамі і ўчынкамі няхай дапамагае захоўваць ласка Божая.**

**Сябры, калегі і родныя**

## ВІНШУЕМ

**Самакар Юлечка! Віншуем цябе з Днём нараджэння. Жадаем табе поспехаў у штодзённай працы духоўнага ўзбагачэння. Няхай добры Божа дае табе здароўе, цярпенне і адорвае сваёй любоўю і ласкамі.**

**Твае бацькі, родныя і знаёмыя**

Голас душы № 35 (218) 2006. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 2178. Выдадзена міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 19 лістапада 2003 г.
Заснавальнік: грамадскае аб'яднанне «Хрысціянскае таварыства міласэрнасці». Выдаецца з верасня 2000г. на беларускай, рускай, лацінскай і польскай мовах.
Галоўны рэдактар – Кс. Уладыслаў Завальнюк, адказны рэдактар – Наталля Сундукова, вёрстка – Максім Салавей.
Адрас рэдакцыі: 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 15. Тэл.: (017) 200-44-15, (017) 200-56-32. Факс: (017) 200-55-61, E-mail: church_minsk@nsys.by, www.churchminsk.by.
Падпісана да друку 31.08.2006. Фармат 60x84 1/8. Наклад 250 асобнікаў. Заказ №

# ЭДВАРД ВОЙНИЛОВИЧ
# ВОСПОМИНАНИЯ

## УЗОР АЙЦА, ФУНДАТАР І МЕЦЭНАТ ПАБУДОВЫ КАСЦЁЛА св. Сымона і св. Алены, а наш суайчыннік Эдвард Вайніловіч, 11 чэрвеня вярнуўся ў свой храм!



*Продолжение. Начало в № 7.*

Позже он занимал должность начальника полиции и государственной охраны, и на этом посту был привлечен к ответственности за служебную халатность во время убийства П.А. Столыпина в Киеве. Это был очень способный и ловкий чиновник, если и падал, то, как кот, всегда «на четыре лапы». Во время его службы в Минске он был обвинен в том, что отдал приказ стрелять в толпу демонстрантов около тюрьмы, а затем на Виленском вокзале, где был убит адвокат Ентыс. Однажды, на похоронах местного военного сановника в Курлова была брошена бомба, но она оставила только шрам на голове от удара, скатившись по воротнику плаща и упав, не разорвавшись, на мягкий снег. Я видел его после этого происшествия, спокойно рассматривающего служебную корреспонденцию. Покушение было организовано заговорщиками, которыми руководила дочь местного генерала Измайлова. Что касается деятельности Курлова, связанной с решением местных проблем, то он плохого мнения о себе не оставил, в религиозных вопросах проявлял толерантность и, где было можно, давал поблажку. Я помню, был посажен в тюрьму местный адвокат К. Петрусевич, имеющий «левые» убеждения. Ко мне пришли его коллеги из адвокатуры с просьбой ходатайствовать за него перед Курловым. Я потребовал от них обещания, что их осужденный коллега не будет больше вести никакой антиправительственной пропаганды, и отправился к Курлову. После того, как я заявил, что беру Петрусевича на поруки, Курлов тут же по телефону велел освободить заключенного. Позже я встречал Курлова в Петрограде, на приеме у Столыпина. Он всегда был готов мне помочь.

Губернаторство в Минске было нелегким трудом. Например, во время одной из демонстраций молодежи Минска был такой случай, когда тогдашний губернатор граф Мусин-Пушкин, чтобы предотвратить бурные эксцессы и сохранить относительный порядок и спокойствие, сам пошел вместе с молодежью (16 февраля 1905 г), за что был отстранен от должности.

Но вернемся к нашей общей теме. Поражение в Японской войне, съезды земцев, постановления и совещания собраний землевладельцев и шляхты, рабочее движение – все это, наконец, заставило правительство задуматься над проведением реформ. Один за другим начали выходить «свободолюбивые» манифесты: 6 августа 1905 г., 17 апреля 1905 г., 26 февраля 1906 г.

Самое большое впечатление вызвал Указ от 17 апреля 1905г., предоставляющий свободу вероисповедания. Я помню, был первый день Пасхи, когда перед замком в Савичах остановилась почтовая карета с прибывшим ко мне нарочным, который привез из Минска радостное известие. Этот Указ вызвал сильные эмоции, во-первых, потому, что затрагивал самые чувствительные струны человеческой души, а именно – его совесть; а во-вторых, если для претворения в жизнь других указов нужны были еще определенные обстоятельства, то здесь каждый был сам себе и хозяин и судья. Хотя, как позже оказалось, и в этой области мои знания понадобились.

Я тут же отправился на праздничное Богослужение в приходской костел в Тимковичах и рассказал об этом настоятелю и многочисленной собравшейся здесь мелкопоместной шляхте. Радости не было конца. Только за один день несколько человек, насильно причисленных к господствующей религии, заявили о своей принадлежности к католическому Костелу, а форму для подобных заявлений я лично составил в плебании, чтобы уже в готовом виде распечатать и передавать заинтересованным лицам. Затем эта форма была передана митрополиту Шембеку, который летом этого же года посетил с визитом Минск и Несвиж. Митрополит эту форму утвердил и рекомендовал духовенству.

Хочу отметить, что указом от 17 апреля 1905 года воспользовалось большое количество людей, находящихся в условиях навязанного православного вероисповедания. Но после того, как вопросы были урегулированы, волна активности постепенно спадала, а жизнь входила в старое русло, без осложнения отношений между людьми, принадлежащими к разным конфессиям. Единственно, что стало более заметным, это большая стара-

тельность и усердие в вопросах набожности и пышности обрядов среди православного населения, раньше рассчитывающего на привилегии господствующего вероисповедания и правовую опеку.

Однако, вернусь к уже упомянутому визиту Его Высокопреосвященства митрополита Шембека в Минск, поскольку он стал большим событием для нашей провинции.

Минская епархия была создана 15 ноября 1798 г. на основании распоряжения Папы Пия VI и согласия императора Павла I.

Первым Минским епископом и основателем в Минске Благотворительного Общества был Якуб Дедерко, кстати, далекий родственник нашей семьи, подаривший чаши для домашней каплицы в Савичах. Поэтому также в presbiterium (алтарной части) Минского Кафедрального собора долгое время висели портреты императора Павла I и епископа Дедерко, не знаю, почему их позже убрали. Затем, после событий 1863 года, а точнее в 1869 году, последний епископ Адам Войткевич был выслан, а епархия закрыта правительством. Однако, это упразднение не было признано Апостольским Престолом, и каждый Митрополит Могилевский, получая назначение на должность, должен был дополнительно получать «экзекватор» на Минскую епархию. Таким образом, после 50-летнего периода преследований и правления в приходах и деканатах Кулаковских, Юргевичей и Сэнчиковских «et tutti quanti» приезд в Минск Минского Митрополита и епископа стал знаменательным событием, а представительная личность Шембека больше всего этому импонировала.

Произошло это событие в 1905 году. Поезд прибыл на Виленский вокзал. Представительские комнаты вокзала были «ad hoc» открыты. В них ожидали делегаты от города и провинций. Митрополит в порфире и длинной мантии входит, благословляя по пути становящихся на колени присутствующих. После моего краткого приветственного выступления Митрополит сел в открытый ландо, и мы направились в сторону Кафедрального собора. Проезжая по главным улицам города, Митрополит благословлял собравшихся верующих, которые приветствовали высокого деятеля конфессии, само существование которой в течение длительного периода находилось под вопросом. Назавтра происходил торжественный въезд в Кафедральный собор и, естественно, обед с речами и рядом официальных визитов, как это обычно бывает в таких случаях.

Представительная внешность и манера держаться, тактичное поведение и достоинство Митрополита произвели сильное впечатление на минских чиновников. Духовенство, столько лет не имевшее предводителей, прониклось уважением к духовным властям, а население – спокойствием, видя в лице Митрополита Шембека, сильного духовного наставника и защитника.

Не менее достойным, а, возможно, даже более торжественным, был последующий выезд Митрополита в Несвиж, приуроченный к церемонии погребения владельца майората князя Антония, умершего в Берлине 4 декабря 1904 г. Князь Антоний был временно захоронен в Пшигодицах (около Познани). Летом на торжественное перезахоронение князя в семейном склепе майората в Фарном костеле Несвижа приехал Митрополит.

Митрополит был встречен конной свитой, состоящей из местной мелкопоместной шляхты в Городее (Замирье) на железнодорожной станции, расположенной в двух милях от Несвижа. Свита, возглавляемая вторым сыном князя Ежи Каролем Радзивиллом, на добрых лошадях сопровождала его до самого Несвижа.

Недалеко от бывшего костела Отцов Бернардинцев, (в последствии – церкви), была установлена триумфальная арка, возле которой по всеобщему желанию и одобрению я встретил Митрополита приветственной речью. Его Преосвященство был одет в торжественные одеяния. Под звон колоколов он в моем сопровождении вошел в Фарный костел, откуда после совершения молитвы направился в комнаты замка. Но буквально сразу же почувствовал недомогание, причем в такой степени, что в похоронах князя Антония принять участия не смог. Это было началом тяжелой болезни Митрополита, от которой он уже не смог оправиться. Болезнь сломила в расцвете сил человека, необходимого нашему государству для возвращения независимости и уважения к нашим гражданам петербургскими властями, которым он импонировал своим образованием, графским титулом и тактом. Подвластное ему духовенство вынуждено было соблюдать введенную им строгую дисциплину, которая расшаталась вследствие длительного отсутствия пастырской власти. С этого момента события в стране начинают стремительно развиваться. Вышел Указ о назначении выборов в законодательные палаты, то есть в Думу и Государственный Совет. Начало работы было объявлено на 27 апреля 1906 года. Минская губерния должна была направить в Государственный Совет только одного члена, избранного на съезде землевладельцев, имеющих юридически обозначенный ценз. А в Думу губерния направила 9 делегатов, среди которых 8 представителей от населения независимо от сословия. Выборы в Думу проходили в губернском городе не непосредственно, а из числа избранных на поветовых собраниях.

Поскольку Аграрное Общество было организацией, охватывающей все сферы деятельности землевладельцев, а первое избирательное право почти исключительно передавало выборы в руки этого класса, естественно, что среди членов Общества закипела работа. В губернии и поветах начали проводиться съезды, заседания, создавались избирательные комитеты.

Накануне общего предвыборного собрания в салонах госпожи Костровицкой собрались влиятельные лица, чтобы разработать основные принципы данного мероприятия.

*Ксендз Владислав Завальнюк*

*Продолжение следует*